

Штотыднёвы парафіяльны бюлетэнь касьцёла сьв. Сымона і сьв. Алены

# Голас душы



№ 9 (113)
субота, 8 траўня 2004 г.

# ТУРЫНСКАЯ ПЛАШЧАНІЦА ВЯРТАЕЦЦА НА БЕЛАРУСЬ

## 16 траўня,

у нядзелю, на Беларусь з Украіны вяртаецца Копія Сьвятой Турынскай Плашчаніцы, сустрэча якой адбудзецца на чыгуначным вакзале а 9 гадзіне раніцы.

Сардэчна запрашаем прыняць удзел ва ўрачыстым набажэнстве з гэтай нагоды ў касьцёле сьв. Сымона і сьв. Алены

**11. 00.**

Шаноўныя парафіяне-хрысьціяне!

Турынская Плашчаніца, Саван, гэта знак любові Збаўцы да нас. Адбіцьцё Вобліку Хрыста на Саване нагадвае нам пра нашае духоўнае заданьне ў жыцьці часовым, а пасьля ў вечнасьці.

*Пробашч касьцёла сьв. Сымона і сьв. Алены*
*Ксёндз Уладыслаў Завальнюк*

# ОБРАЗ ВЕЛИЧАЙШЕЙ СВЯТЫНИ ВСЕХ ХРИСТИАН ЗЕМНОГО ШАРА С БЛАГОСЛОВЕНИЕМ ПРИБЫВАЕТ НА БЕЛОРУССКУЮ ЗЕМЛЮ

Настоятель костела святых Симона и Елены, ксендз Владислав Завальнюк, кандидат исторических наук

Исследованиями многих ученых различных стран Мира в том числе и исследованиями белорусских ученых под руководством Заслуженного деятеля науки Республики Беларусь, доктора технических наук, профессора Михаила Тявловского неопровержимо доказано, что Святая Плащаница Туринская является исторически достоверной.

Учеными доказано, что именно эта Святая Плащаница укрыла израненное мертвое Тело нашего Спасителя Иисуса Христа. В момент Своего Воскресения Иисус Христос оставил на Святой Плащанице Образ Своего истерзанного Тела. Изображение на Святой Плащанице Туринской появилось под действием энергии Воскресения, таинственная природа которой остается за пределами человеческого познания.

Сегодня в мире имеется всего лишь семь полномасштабных в полной цветовой гамме фотокопий Святой Плащаницы Туринской. 19 апреля 2002 г седьмая фотокопия Святой Плащаницы Туринской во время торжественной литургии была освящена в храме святого Лоренцо Мартире и с разрешения и благословения Хранителя Святой Плащаницы кардинала Джованни Салдарини передана всем христианам Беларуси. Именно в этом храме в 1578 г. была размещена Святая Плащаница после Своего прибытия в г. Турин.

2 мая 2002 г. седьмая фотокопия Святой Плащаницы прибыла в г. Минск. Шестая фотокопия Святой Плащаницы находится в Москве в Сретенском монастыре, где, с благословения Патриарха Московского и всея Руси Алексия II, выставлена на поклонение верующим христианам всех конфессий.

По просьбе украинского кардинала Любомира Гузора с 28 сентября 2002 г. по 15 мая 2004 г. этот Образ Святой Плащаницы был передан на поклонение христианам Украины. За это время Он совершил путешествие по многим городам Украины включая Львов, Киев, Донецк, Одессу, Днепропетровск, Харьков, Ивано-Франковск. Образ Святой Плащаницы побывал в православных, римо-католических и греко-католических храмах этих городов, в том числе в православном кафедральном соборе Украины – во Владимирском соборе г. Киева.

За это время на Украинской Земле Образу Святой Плащаницы поклонились свыше 10 миллионов человек. Во время поклонений отмечены многочисленные случаи чудодейственного исцеления больных людей. Об этом свидетельствовали многие средства массовой информации.

16 мая 2004 г. поездом № 272 «Львов-Минск» в 9 часов утра на железнодорожный вокзал г.Минска с Украины возвращается седьмая фотокопия Святой Плащаницы Туринской – величайшей Святыни всех христиан Земного шара. Для сопровождения этого Образа Святой Плащаницы из г. Львова в г. Минск зафрахтованы по данным Львовской Епархии три вагона и этот Образ будут сопровождать 150 паломников. В их числе 15 священнослужителей различных христианских конфессий г. Львова.

Прибытие Образа Святой Плащаницы на Белорусскую землю и в г. Минск, по моему убеждению является историческим событием в жизни не только православной и католической конфессий, но и всех христиан Беларуси, а также знаменательным событием в культурной и общественной жизни Республики Беларусь. Поэтому, по моему убеждению, христиане двух ведущих конфессий Беларуси: Православной и Католической должны и, скорее, обязаны оказать Образу Святой Плащаницы–этой уникальнейшей святыни всех христиан Земного шара, столь же великое почитание, как это было сделано на Украине.

Поэтому костельный комитет обратился к властям г. Минска разрешить крестный ход с этим Образом Святой Плащаницы Туринской по улицам города, а затем к месту своего постоянного хранения – храму святых Симона и Елены.

Для отдания особой почести Образу Святой Плащаницы, прибывшему на многострадальную Белорусскую Землю, было бы желательно устроить перезвон колоколов всех как православных, так и католических храмов Минска. Это бы снискало еще большие внимание и уважение к столь знаменательному событию со стороны всех жителей Беларуси и г. Минска.

Пусть прибытие Образа Святой Плащаницы в Минск станет Праздником Благословения Господнего для многострадальной Земли Беларуси, всех христиан Беларуси и всего белорусского народа, праздником Единения всех христиан Беларуси, что весьма важно для нашей страны в это тревожное время, связанное с деятельностью международного терроризма и его нападками на христианство.



# ТУРЫНСКАЯ ПЛАШЧАНІЦА. ХРАНАЛОГІЯ

У **трыццатыя гады** пасьля Нараджэньня Хрыста, вечарам, **7 красавіка**, Цела Хрыста пакладзена ў пахавальню "ў белым палотнішчы". Раніцай, у нядзелю, палатно было знойдзена пустым.

**II стагодзе.** – У Эдэссу (сучасная Урфа ў Турцыі) прыбывае незвычайны партрэт Езуса на палатне.

**525 г.** – У час рамонтных прац у сьвятыні Божай Мудрасьці ў Эдэссе зноў знойдзены партрэт Езуса, які назвалі Мандзіліёнам (Хусткай). Гэта незвычайны партрэт, створаны не чалавечай рукой, нерукатворны. Яго можна параўнаць з Саванам.



**944 г.** – Візантыйскія войскі ў час ваеннага паходу супраць арабскага султана Эдэссы захапілі Мандзіліён і 16 жніўня ўрачыста ўносяць яго ў Канстанцінопаль. І тады высьвятляецца, што на самай справе – гэта складзены Саван.

**1147 г.** – Людвіг VII, французскі кароль, ушаноўвае Саван у час свайго візіта ў Канстанцінопаль.

**1171 г.** – Мануэль І Камненок паказвае Альмарыку, лацінскамі цару Ерусаліма, рэліквіі пакутаў, сярод іх Саван.

**1204 г.** – Роберт дэ Клары, летапісец IV крыжовага паходу, піша, што Саван знік з Канстанцінопаля і надзейна схаваны.

**1356 г.** – крыжаносец Жаффрэй Сорны перадае Саван канонікам у Лірэі.

**1389 г.** – Пётр д'Аркіс, біскуп Тоуэрс, забараняе выстаўляць Саван для ўсеагульнгага агляду.

**1453 г.** – Маргарыта Чорная, сваячка Жаффрэя, пакідае Саван, як запавет, Ганне, жонцы князя Людвіка ды Сваойя.

**1506 г.** – Папа Юлій II зацьвярджае Сьвята Савана 4 мая і фармуляр Набажэнства ўшанаваньня Савана, адначасова дазваляе выстаўляць Саван для ўсеагульнага агляду.

**1532 г.** – пажар у ноч з 3 на 4 сьнежня: срэбраныя рэліквіяр (рака), у якім захоўваецца Саван, загараецца з аднаго боку, агонь апальвае палатно ўздоўж складзенага перагібу, каплі расплаўленага металу праходзяць праз некалькі слаёў матэрыялу. Праз два гады манахі-кларыскі абшываюць пашкоджаныя месцы, якія можна ўбачыць і сёньня.

**1535 г.** – у сувязі з ваеннымі дзеяньнямі Плашчаніца пераносіцца ў Турын.

**1578 г.** – Эмануіл Філіберт пераносіць Саван у Турын з мэтай скарачэньня шляху пілігрыма сьвятога Карла Барамея, які спаўняў сваё абяцаньне ўшанаваць Сьвяты Саван. У сувязі з выключнымі ўрачыстасьцямі дома Савойя ці ў сувязі з гадавінамі Саван выстаўляецца для агульнага агляду прыкладна кожныя 30 год.

**1694 г.** – 1 чэрвеня Саван канчаткова пераносіцца і разьмяшчаецца ў капліцы, пабудаванай архітэктарам Джуарына Джуарыні, пры катэдральным саборы ў Турыне. У гэтым жа годзе блаславёны Себасьцян Вальфрэ замацоўвае зашытыя месцы, каб палатно было больш моцным.

**1898 г.** – першае фатаграфаваньне Плашчаніцы, якое выканаў Секонда Піе паміж 25 і 28 траўнем. Захапляючае адкрыцьцё фотанегатыва, з незвычайнай дакладнасьцю, яскрава выяўлялі фігуру Чалавека з Савана. Распачынаюцца дасьледваньні, перш наперш у

вобласьці судзебнай медыцыны.

**1933 г.** – Саван выстаўляецца для ўсеагульнага агляду, каб ушанаваць дзевяцісоты юбілей Збаўленьня.

**1939-1946 гг.** – У час II Сусьветнай вайны Саван захоўваецца ў аббацтве Монтаверыні.

**1969 г.** – З 16 па 18 чэрвеня праводзяцца афіцыйныя дасьледваньні рэліквіі камісіяй, якую склікаў Мішэль Пелягрына. Першае каляровае фатаграфаваньне Джаваньні Баттыста Юдзіка Кардзінглі.

**1973 г.** – Першае выстаўленьне Савана перад тэлекамерамі (23 лістапада).

**1978 г.** – адзначаецца чатырохсотгодзьдзе перанясеньня Савана з Шамберы ў Турын, у сувязі з гэтым Саван выстаўляецца для ўсеагульнага агляду з 26 жніўня па 8 кастрычніка. Паседжаньне Міжнароднага Дасьледчага Кангрэсу. Шматлікія італьянскія і замежныя вучоныя, болшасьць са ЗША, 120 гадзін праводзілі вопыты і аналізы рэліквіі ў мэтах правядзеньня інтэрдысцыплінарных дасьледваньняў.

**1980 г.** – 13 красавіка асабіста для сьвятога Айца Яна Паўла II было арганізавана выстаўленьне Савана.

**1983 г.** – 18 сакавіка памірае Умберто II ды Савойя. У сваім запавеце ён перадае Саван Апостальскай сталіцы. Але на аснове папскага рашэньня рэліквія застаецца ў Турыне і перадаецца пад ахову і апеку кардынала-архібіскупа Анастасіо Баллестрэро.

**1992 г.** – 7 верасьня праводзяць афіцыйны агляд Савана эксперты розных краін, ім было прапанавана выказаць сваё меркаваньне і рэкамендацыі па найлепшым спосабе кансервацыі і захоўваньня Плашчаніцы.

**1995 г.** – Кардынал Турынскі Джованьні Сальдарыні, ахоўнік Савана, даў знаць пра хуткае выстаўленьне Савана на ўсеагульны агляд: у 1998 г. – у сувязі са стогадовым выкананьнем першых фотаздымкаў Савана і ў 2000 г. – у сувязі са сьвяткаваньнем двухтысячнага юбілею Збаўленьня.

**1997 г.** – пажар, які бушаваў ноччу з 11 на 12 красавіка, значна пашкодзіў капліцу, дзе знаходзілася Плашчаніца, і перайшоў на кафедральны сабор. Жадаючы выратаваць Саван, пажарныя вымушаны былі разьбіць малатком браніраванае куленепрабіваемае шкло. 14 красавіка камісія з кваліфікаваных і вопытных спецыялістаў, якую склікаў кардынал Джованьні Сальдарыні, дасьледвала стан Плашчаніцы і выявіла, што яна не пашкоджана. Кардынал заявіў, што раней запланаванае выстаўленьне Плашчаніцы на 1998 і 2000 гады ў Турыне, адбудзецца.

***"Саван маўчыць, але як бы заклікае навуку гаваньць. "Гэта дакумент, які дае такое ўражаньне, быццам ён чакаў наш час". Ян Павел II***

*Пробашч касьцёла сьв. Сымона і сьв. Алёны*
*ксёндз Уладыслаў Завальнюк*





## Барановичи

Для того, чтобы жить праведно и заслужить вечное счастье, недостаточно одних только наших человеческих сил. Нужна ещё помощь, которую мы называем благодатью Божьей. Благодать Божью мы получаем посредством святой Мессы, святых Таинств и молитвы. Каждое Таинство соединяет нас с Богом, и это благодаря Церкви.



**2 мая 2004** года в католической церкви «Воздвижение Святого Креста» (настоятель Тадеуш Волос), расположенной в городе Барановичи по улице Куйбышева, проходило **Таинство Миропомазания** - Таинство, установленное Христом для укрепления нас в вере и христианской добродетели. Совершал обряд Миропомазания Его Преосвященство кардинал Казимир Свёнтек, Архиепископ Минско-Могилёвский, Апостольский Администратор Пинской епархии. Благодать Таинства получили 122 человека. На торжестве присутствовали ксёндз-прелат Антоний Хей, ректор Высшей Семинарии в г.Санкт-Петербурге, отец Ян Ресь, ректор монастыря в г.Барановичи, ксёндз Богдан Криньски, отец Ян Глинка.

Продолжением празднества стало чествование Его Преосвященства кардинала Казимира Свёнтека в связи с 65 летием Священства. С юбилеем его поздравили священнослужители, молодёжь, принявшая **Таинство Миропомазания**, Сестры Доминиканки и Сёстры Святого Семейства.

*Прихожанка католической церкви «Воздвижение Святого Креста»*
*Кветковская С., г. Барановичи.*

## Мінск

Увечары, **6 траўня,** ў Тэатральнай зале Касьцёла сьв.Сымона і сьв.Алены адбыўся драматычны монасьпектакль "**Мацярынскае поле**" паводле Б.Брэхта, Ч.Айтматава і пісьмаў нямецкіх салдат. Яго выконвала мастацкі кіраўнік Валгаградскага дзяржаўнага Тэатра аднаго акцёра, Заслужаная артыстка Расіі **Зінаіда Ціханаўна Гурава**.

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч" запрасіў расійскую актрысу ў Мінск для ўдзелу ў Міжнародным фестывалі мастацтваў "Мінская вясна-2004", які прысьвечаны 60-годзьдзю вызваленьня Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.

Беларускі глядач пазнаёміўся зь цікавай асобай, стваральніцай Валгаградскага дзяржаўнага тэатра аднаго акцёра, які ўвосені 2003 г. адзначыў 15-годзьдзе сваёй дзейнасьці. У рэпертуары тэатра 16 рознажанравых монасьпектакляў, усе якія выконвае Зінаіда Гурава! Прызёр шматлікіх фестываляў, у тым ліку ў Маскве, сьпектакль "Мацярынскае поле" выклікаў жывое адчуваньне вайны. Трагедыя маці, якая згубіла на ёй сваіх дзяцей, аб'яднала ўсіх прысутных і нікога не пакінула абыякавым.

Сярод ганаровых гасьцей у Тэатральнай зале прысутнічалі пробашч Касьцёла сьв.Сымона і сьв.Алены, шаноўны айцец Уладыслаў Завальнюк, тэатразнаўца, прафесар Тацьцяна Дзьмітрыеўна Арлова, дырэктар Фестываля монасьпектакляў «Я» Антаніна Іванаўна Міхальцава.

Ад Міністэрства культуры Беларусі ліст падзякі чытаў кіраўнік Белдзяржфілармоніі Васіль Пятровіч Калтунчык, прадстаўнік і супрацоўнік СТД Ірына Рахманава па даручэньню Старшыні Беларускага саюза тэатральных дзеячоў Аляксея Ануфрыевіча Дударава ўручыла дыплом "Крыштальная Паўлінка", самую вялікую тэатральную ўзнагароду Беларусі.

Зінаіду Ціханаўну віталі мастацкі кіраўнік-дырэктар Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч" Галіна Аляксееўна Дзягілева, загадчык культурна-асьветніцкага сектара Мінгарвыканкама Натальля Мікалаеўна Старыкава, Старшыня Рускага таварыства Міхаіл Іванавіч Ткачоў.

*Галіна Дзягілева*




# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

*5 ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ*

## ЧЫТАНЬНЕ ЗЬ ДЗЕЯЎ АПОСТАЛЬСКІХ

*(Дз 14, 21-27)*

Павел і Варнава вярнуліся ў Лістру, Іканію і Антыёхію, узмацняючы душы вучняў, заахвочваючы іх да трываньня ў веры, бо праз многія нягоды трэба ўвайсьці ў Валадарства Божае. Калі ў кожным Касьцёле пры малітвах і пастах прызначылі старэйшын, даручылі іх Госпаду, у Якога яны ўверавалі.

Потым яны прайшлі праз Пізыду і прыбылі ў Памфілію. Навучалі ў Пэргіі, пайшлі ў Аталію, а адтуль адплылі ў Антыёхію, дзе ласкаю Божаю былі прызначаны на дзею, якую зьдзейсьнілі.

Калі яны прыбылі і сабралі [мясцовы] Касьцёл, дык расказалі, як многа зрабіў Бог праз іх і як адчыніў вароты веры язычнікам.

*Лектар:* ***Гэта Слова Божае.***
*Усе:* ***Дзякуем Госпаду Богу.***

## ПСАЛЬМ

*Пс 145 (144), 8-9. 10-11. 12-13аб*

***Буду праслаўляць Цябе, Валадар, мой Божа.***

Госпад лагодны і міласэрны,
Няскоры да гневу і на ласку шчодры.
Госпад для ўсіх добры,
А Яго міласэрнасьць над усім, што стварыў.

Няхай Цябе, Госпадзе, праслаўляюць усе Твае справы
І няхай бласлаўляюць Цябе Твае сьвятыя.
Няхай расказваюць пра хвалу Твайго Валадарства
І няхай абвяшчаюць Тваю магутнасьць.

Каб расказаць сынам людскім пра Тваю магутнасьць
І веліч хвалы Твайго валадарства.
Валадарства Тваё Валадарства Ўсіх вякоў,
Ва ўсе пакаленьні Твая ўлада.




## ЧЫТАНЬНЕ З КНІГІ АПАКАЛІПСІСУ

*(Ап 21, 1-5а)*

І ўбачыў я новае неба і новую зямлю, бо першае неба і першая зямля мінулі і мора ўжо няма.

І Сьвятое Места - Нябесны Ерусалім убачыў я, як ён сыходзіў зь неба ад Бога, аздоблены, як нявеста, прыбраная кляйнотамі для свайго мужа. І пачуў я гучны голас, што чуўся ад трону: "Вось сьвятыня Бога зь людзьмі і Ён стане жыць разам зь імі і яны будуць Ягоным народам, а Ён будзе "БОГАМ ІХНІМ". І сатрэ ён зь іхніх вачэй усе сьлёзы, І сьмерці ўжо болей не будзе. Ні жалобы, ні крыку, ні надрыву ўжо (болей) не будзе, бо былое ўжо прамінула".

І сказаў Той, Які сядзіць на троне: "Вось Я раблю ўсё новае".

*Лектар:* ***Гэта Слова Божае.***
*Усе:* ***Дзякуем Госпаду Богу.***

## АЛЕЛЮЯ!

(Ян 13, 34)

**Даю вам новае прыказанне, каб вы любілі адзін аднаго, як Я палюбіў Вас.**

## ✠ ЧЫТАНЬНЕ СЬВЯТОГА ЕВАНГЕЛЬЛЯ ПАВОДЛЕ ЯНА.

*(Ян 13, 31-33а. 34-35)*

А калі Юда выйшаў, Езус сказаў: “Цяпер Сын Чалавечы ахінуты славай, а ў Ім Бог, славай ахінуты. Калі Бог у Ім ахінуты славай, дык і Бог славай ахіне Яго ў Сабе, і ахіне Яго славай неўзабаве.

Дзеці, яшчэ нядоўга Я з вамі. Вы будзеце шукаць Мяне, але, як Я сказаў габрэям, так кажу цяпер і вам: куды Я іду, вы туды не можаце пайсьці. Даю вам новую запаведзь, каб вы любілі адзін аднаго так, як Я вас палюбіў, каб любоў у вас была ўзаемная.

Па гэтым усе пазнаюць, што вы Мае вучні, калі будзеце любіць адзін аднаго”.

*Сьвятар:* ***Гэта Слова Госпада.***
*Усе:* ***Хвла Табе, Хрысьце.***




# Градец Кралов — Прага — Ченстахова

**Шестидневная пилигримка. Состоится 20 мая 2004 года.**

Основные богатства и ценности, которыми дорожит и гордится любой народ, конечно, сосредоточены в главном городе государства. Ведь столица - это лицо страны. Но познать душу, увидеть национальный характер, особенности жизни, неприукрашенные мегаполисом, можно только в провинции.



**Градец Кралов (Hradec Kralove)**

В Богемии много красивых городов. Но есть городок, чья красота была признана еще в Средние Века, и сохранилась до сих пор. Название у него - Градец Кралов. В 11 столетии он становится резиденцией Пршемысловичей.

В конце XX века Градец Кралов был признан одним из наиболее красивых чешских городов.

**Прага**

Основной интерес в Праге представляют пять исторических кварталов в центре города, которые были из-за своей исключительности в 1993 году внесены в список мирового культурного наследия ЮНЕСКО.

***Градчанская площадь - Площадь Пражского Кремля***

История площади, лежащей у входа в Кремль, уходит корнями в 7 век. Площадь до сих пор сохранила свою средневековую планировку.

Штернбергский дворец, построенный в 1698 - 1707 гг., сейчас является собственностью Национальной галереи, которая экспонирует здесь свои постоянные экспозиции (старая европейская и французская живопись 19 в.).

***Пражский Град***

Пражский Кремль является самой большой крепостью в Чехии и главной достопримечательностью города.. В Королевском саду Кремля находится Летний дворец королевы Анны ("Бельведер"), построенный в 1538-64 гг.

***Страговский монастырь***

Недалеко от Пражского Кремля, на Погоржельце, расположен Страговский монастырь ордена премонстратов, возникший в 12 в. На территории монастыря находятся костелы св.Роха и Вознесения Богородицы, а также знаменитая барочная библиотека, в которой хранится более 30.000 рукописей, инкунабул и книг.

***Лорета***

Лорета - паломническое место, созданное по проекту итальянского архитектора Джованни Баптиста де Орси.

***Мала Страна***

Кафедральный собор св. Николая, жемчужина пражского барокко, построенная на Малостранской площади, является одним из главных культовых сооружений в Праге.

Рядом с ним, на Кармелитской улице, находится костел Богородицы Торжествующей, возведенный в 17 в., в котором хранится восковая фигурка Иисуса-младенца, привезенная из Испании в 16 в.

***Старое Место - Старый Город***

Старый Город, заложенный в 10 в., является музеем архитектуры под открытым небом. Муниципальный дворец считается самым красивым зданием стиля модерн в Праге.



***Новый Город - Вацлавская площадь***

Гостиницы, банки, рестораны, кинотеатры, универмаги и ошеломляющие здания сти-ля модерн делают Вацлавскую площадь деловым и культур-ным центром столицы.

**Ченстохова**

Город является одним из крупнейших в Польше и в мире местом религиозного культа, центром паломничества.

Много веков этот город связывают со знаменитой святыней миллионов верующих - иконой Пресвятой Девы Марии, или Черной Мадонны, которая хранится в монастыре паулинов на Ясной Гуре, одном из пяти крупнейших религиозных центров мира. Авторство иконы легенда приписывает евангелисту Луке, который написал ее в Назарете, на крышке стола из дома святого семейства.

Монастырскому комплексу на Ясной-Гуре свыше 600 лет. Это великолепный памятник архитектуры, где хранятся произведения искусства и предметы минувших столетий.

*Запись по тел. 220-02-36, 220-56-32 или в библиотеке им. А. Мицкевича*



# ПІЛІГРЫМКІ

## График пилигримок на май-ноябрь 2004 г.

| *Дата* | *Продолжительность* | *Маршрут* |
|---|---|---|
| 20.05-26.05(четв-среда) | 6 дней | **Градец Кралов-Прага-Ченстахова** |
| 29.06(суб) | 1 день | **Глубокое-Мосар-Браслав** |
| 06.06 (воскр) | 1 день | **Мир-Несвиж-Новогрудок**<br>Урачыстасьць Найсьвяцейшай Тройцы |
| 11.06–14.06 (пятн-понед) | 4 дня | **Лихэнь-Познань** |
| 20.06 (воскр) | 1 день | **Гродно-Маломожейково**<br>Успамін Беззаганнага Сэрца Найсьвяцейшай Панны Марыі |
| 02.07–05.07 (пятн-понед) | 4 дня | **Санкт-Петербург** |
| 11.07 (воскр) | 1 день | **Раков-Ивенец-Першай-Воложин-Ивье** |
| 6.08–09.08 (пятн-понед) | 4 дня | **Смоленск-Катынь** |
| 15.08 (воскр) | 1 день | **Заславль-Молодечно-Красное**<br>Урачыстасьць Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі |
| 27.08-30.08 (пятн-понед) | 4 дня | **Почаевская Лавра** |
| 05.09 (воскр) | 1 день | **Крэва-Боруны-Гольшаны-Вишнево-Воложин** |
| 17.09-20.09 (пятн-понед) | 4 дня | **Львов** |
| 02.10 (суб) | 1 день | **Слоним-Жировичи**<br>Успамін Сьв. Анелаў Ахоўнікаў |
| 14.10-23.10 (четв-суб) | 10 дней | **Италия-Германия** |
| 14.11 (суб) | 1 день | **Вильнюс** |

**Запрашаем у пілігрымку ў Чэнстахову разам з суполкай "Каштоўная жамчужына"**
**Мц 13,46 Руху "Сьвятло-Жыцьцё" з 10 па 14.06.2004**
**на свята 30-годдзя пасвячэння Руху "Сьвятло-Жыцьцё" Маці Божай Беззаганнай**
**Кардыналам Каролем Вайтылам.**
**Кошт 35$. Трэба ўзяць Біблію, спальны мяшок, бутэрброды.**
**Выязд пасля Сьвятой Імшы ў 19.00**
**Запіс у Чэславы Млечка кожны аўторак пасля Сьв. Імшы ў 19.00.**

# ІМЯНІНЫ

10 – **Панядзелак** – Сямён, Антаніна, Ісідар, Антон, Ян, Сымон.

11 – **Аўторак** – Кірыла, Яўсей, Інга, Францішка, Францішак, Уладыслаў, Уладыслава, Ігнат, Бенедыкт, Міра, Якуб, Віталій, Зіновій, Кіра, Максім, Людамір, Мамэрт, Піліп.

12 – **Серада** – Арцём, Філімон, Дамініка, Панкрат, Ганна, Фядот, Багдан, Васіль, Ян.

13 – **Чацьвер** – Якуб, Магдалена, Роберт, Разалія, Глёрыя, Васіль, Данат.

14 – **Пятніца** – Марыя, Саламея, Баніфацы, Мацей, Віялета, Дамінслава, Тамара, Ерамей, Ігнат, Яўхім.

15 – **Субота** – Барыс, Зоя, Соф'я, Берта, Ісідар, Віталія, Ян, Яніна, Віктар, Вікторыя, Апанас, Барыс, Глеб, Давід, Раман.

16 – **Нядзеля** – Андрэй, Цімафей, Фэлікс, Ян, Яніна, Венцыслаў, Пётр, Сымон.

# ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ – ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ

**9 траўня ў касьцёле Сьв. Сымона і Сьв. Алены**

✞ а **10 гадзіне** адбудзецца ўрачыстая Сьвятая Літургія на **італьянскай** мове, якую адслужаць сьвятары з Італіі: дон Кармэліо, прафесар універсітэту, дон Пётр у інтэнцыі за ўсіх палеглых у гады Вялікай Айчыннай вайны.

✞ а **11 гадзіне** ўрачыстая Сьвятая Літургія на **беларускай** мове за ўсіх загінуўшых, хто абараняў нашу Беларусь і ўсе краіны ад захопнікаў.

✞ а **13 гадзіне** ўрачыстая Сьвятая Літургія за ўсіх загінуўшых, хто абараняў нашу Беларусь і ўсе краіны ад захопнікаў на **польскай** мове.

У нядзелю, **9 траўня**, **а 12 гадзіне** ля вечнага агню ў Масюкоўшчыне дэлегацыяй гуманітарыяў з Рыма (якія дапамагаюць беларускім дзіцячым школам-інтэрнатам) ад супольнасьці парафіі Рымскіх Першапакутнікаў адбудзецца ўскладаньне вянку салдатам-вязьням Італіі, якія загінулі ў Шталаге Вермахта № 352, з надпісам:

AI SOLDATI DAL'ITALIA, CADUTI NELLA SECONDA GUERRA MONDIALE IN SHTALAG VERMAXT № 352 DAL NOME DEL PAROCI

DIE PROTOMARTYRI ROMANI.

**ДЗЯКУЮЧЫ ІХ АХВЯРАМ МЫ ЖЫВЁМ.**



# СЬВЯТЫ ХРОСТ

***З радасьцю паведамляем, што за апошні час Сакрамант Хросту атрымалі наступныя дзеці і дарослыя:***

1. Яўгеній Яршоў, сын Уладзіміра і Алесі
2. Дзьмітрый Супранёнак, сын Сяргея і Алены
3. Раман Ачыновіч, дачка Андрэя і Тэрэзы
4. Ганна Сьцяпура, дачка Віталя і Люмілы
5. Арцём Усьціновіч, сын Яўгенія і Сьвятланы
6. Ганна Зубель, дачка Сяргея і Натальлі

***Молімся за іх, каб узрасталі ў веры для хвалы Бога і паўсюднага Касьцёла.***

# ВІНШУЕМ МАЛАДЫХ



***Аддаём пад апеку Бога маладых, даверваючы, што стрымаюць у сваім жыцьці сужэнскую прысягу. Просім нашых парафіянаў аб малітве за іх:***

Жура Алега і Дубовік Марыну

***Няхай добры Бог напоўніць іх любоўю, якая ўсё пераадольвае.***

***<u>З клопатам пра сумленьне</u>***

## Шостае Божае прыказаньне — “Не распусьнічай”
## Дзевятае Божае прыказаньне — “Не пажадай жонкі бліжняга свайго”



- **Ці не казаў ты, даказваючы, што каханьню ўсё дазволена?**
- **Ці не лічыў, што перад “гэтым” нельга ўстаяць?**
- **Ці не быў да шлюбу ў палавых адносінах?**
- **Ці не чытаў амаральную літаратуру, тым самым узбуджаючы сябе?**
- **Ці не глядзеў эратычных альбо парнаграфічных фільмаў, часопісаў, фотаздымкаў?**
- **Ці заўсёды твае паводзіны былі сьціплыя?**
- **Ці не рабіў сваёй каханай грэшных прапаноў, пагражаючы ў адваротным выпадку пакінуць яе?**
- **Як ты апранаешся, ці сціпла і прыстойна?**
- **Ці не ўжываеш вульгарныя, непрыстойныя словы?**
- **Ці не ўжываў насуперак хрысьціянскай этыцы кантрацэптыйныя (супрацьзачаткавыя) сродкі?**
- **Ці не маеш, будучы ў шлюбе, пазашлюбных адносінаў?**
- **Ці не здраджваеш сваёй жонцы *(свайму мужу)*?**
- **Ці лічышся ты ў сямейным жыцьці з псіхічным і фізічным станам жонкі *(мужа)*?**
- **Ці існуюць паміж вамі ў сужэнскім жыцьці даверлівыя, шчырыя і цёплыя адносіны?**
- **Ці не абяцаў(ла) ты да шлюбу каму-небудзь іншаму, што ажэнішся, выйдзеш замуж?**
- **Ці не супярэчыць ваша фізічнае каханьне Божаму Закону і твайму хрысьціянскаму сумленьню?**

 

СЬВЯТАЯ ІМША БУДЗЕ АДСЛУЖАНА

___ . ___ . 2004 г. у ___ . ___ гадзін

*у інтэнцыі*_____________________________ _____________________________

_____________________________ _____________________________

_____________________________ _____________________________

# РАСКЛАД НАБАЖЭНСТВАЎ У НАШАЙ ПАРАФІІ

| 10 траўня Панядзелак | 11 траўня Аўторак | 12 траўня Серада | 13 траўня Чацьвер | 14 траўня Пятніца | 15 траўня Субота | 16 траўня Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - * | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 8.00 - ✞ | 8.00 - * |
| 12.00 - ✞ | 12.00 - ✞ | 12.00 - ✞ | 12.00 - * | 12.00 - ✞ | 10.00 - * | 9.00 - * |
| 17.00 - * | 17.00 - * | 17.00 - * | 17.00 - * | 17.00 - ✞ | 12.00 - ✞ | 10.00 - ≈ |
| 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - * | 17.00 - ✞ | 11.00 - * |
| | | | | | 19.00 - 👫 | 13.00 - * |
| | | | | | | 17.00 - 👪 |
| | | | | | | 19.00 - * |

✞ — Сьв. Імша ў інтэнцыі памерлых.
* — Сьв. Імша ў інтэнцыі аб здароўі, Божым блаславенстве, апецы Маці Божай.
скл — Складковая Сьв. Імша.
≈ — Сьв. Імша на італьянскай мове.
👫 — Сьв. Імша для парафіяльнай моладзі.
👪 — Сьв. Імша для дзяцей і моладзі.

Штодзённа ў касьцёле а 15-й гадзіне чытаецца **Каронка да Божай Міласэрнасьці.**
У капліцы Маці Божай Будслаўскай – **Вячыстая Адарацыя Найсьвяцейшага Сакраманту.**
**На працягу месяца траўня а 18 гадзіне будуць адбывацца Маёвыя Набажэнствы на хвалу і пашану Маці Божай**
**13 траўня – ўспамін Найсьвяцейшай Марыі, Панны, з Фацімы**
**14 траўня – сьвята сьв. Мацея, Апостала**

# АБ'ЯВЫ

**Дарагія парафіяне!**
**Шчыра дзякуем Вам за Вашыя Дабраахвотныя ахвяраваньні для бібліятэкі імя А. Міцкевіча. Няхай добры Бог бласлаўляе Вам, Вашым родным і блізкім.**

**23 мая** ў парафіі сьв. Сымона і сьв. Алены адбудзецца **Ўрачыстасьць Першай сьвятой Камуніі.** Пачатак сьвяточнага набажэнства ў **8.30**. Дарагія парафіяне, запрашаем Вас памаліцца ў гэты дзень за нашых дзетак, падараваць ім сапраўднае сьвята.

**Выйшаў II том сьпеўніка “Магутны Божа”, які ўключае ў сябе Велікодныя і Велікапосныя песьні, а таксама парадак Сьвятой Імшы.**

**Паважаныя чытачы!**
Пішыце нам пра ўсё, што адбываецца ў Вашай парафіі, горадзе, мястэчку, вёсцы. Падзяліцеся сваімі думкамі, праблемамі, задавайце пытаньні, якія Вас хвалююць. Няхай Ваша радасьць стане радасьцю для ўсіх!

ГОЛАС ДУШЫ №9(113) 2004. Заснавальнік: касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Выдаецца з верасьня 2000 г. на беларускай, рускай і польскай мовах.
Галоўны рэдактар – кс. Уладыслаў Завальнюк, адказны рэдактар – Натальля Сундукова.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, пл. Незалежнасьці, 15. Тэл.:(017) 220-44-15,(017) 220-56-32. Факс:(017) 220-55-61.
Падпісана да друку 07.05.2004. Фармат 60х84 1/8. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №2056. Надрукавана УП "ПТаХа".